Кап. мгр. інж. Г. ГНЕЎШЭЎ

# Выкарыстанне атамных рухавікоў на караблях

Адкрыццё спосабаў атрымоўвання і выкарыстання атамнай энергіі дае перспектывы небывалага тэхнічнага развіцця. Магчымасць кіравання цэннымі ядзернымі рэакцыямі дазваляе выкарыстоўваць уран і торый, як новы від паліва ў сілавых установках электрастанцый, караблёў, самалётаў, ракет, а таксама ў чыгуначных і самаходных сродках транспарту. Перавага гэтых канструкцый бясспрэчна. Падчас, калі пры спальванні 1 кг мазуту выдзяляецца каля 10 000 вялікіх калорый, то пры разбіцці ўсіх ядзер атамаў 1 кг. урану — 235 — выдзяляецца каля 20 міль-ярдаў вялікіх калорый, інакш кажучы ў два мільёны разы больш.

Выкарыстанне ядзернай энергіі ў сілавых установках караблёў заснавана на простым цеплавым цыкле, у якім крыніцай цеплавой энергіі з'яўляецца атамны рэактар, інакш званы атамным катлом. Атамны рэактар — гэта абсталяванне, якое дае магчымасць кіраваць самазаходзячай ланцуговай рэакцыяй падзелу ядзер цяжкіх металаў (урану і платону).

Падчас раздзелу ядзер урана паўстае вялікая колькасць энергіі, ў выніку чаго тэмпература ў рэактары моцна павялічваецца. Каб не дапусціць да растаплення матэрыялаў, з якога пабудаваны рэактар, выдзяляемае цяпло трэба адводзіць пры дапамозе халадзільных сродкаў (вада, газ або вадкі метал). Цеплавая энергія паглынаная адпаведным асяроддзем можа быць пераўтвораная у механічную энергію. Да прыкладу можна падаць адну з сістэм пераўтварэння цяпла атрыманага ў рэактары на механічную працу турбінага вала. Першы носьбіт цягла вада або вадкі метал, напрыклад, натрый падагрэты ў атамным рэактары да вызначанай тэмпературы, пераходзіць да сярэдняга цеплавога абменніка, паравога катла, у каторым перадае сваю цеплавую энергію наступнаму носьбіту цяпла. Другарадным носьбітам цяпла можа быць вада або газ. Вада ўжыта да носьбіта цяпла ў цеплаабменніку пераўтвараецца ў пар, каторы ідзе ў турбіну, уводзячы ў рух шрубу. Зужыты ў турбіне пар кандэнсуецца, а пасля ўжо як вада падаецца зноў у цеплаабменнік. У гэткі спосаб паўстае закрыты цыкл.

Ланцуговай ядзернай рэакцыі, як вядома, спадарожнічае не толькі выдзяленне нейтронаў, але выдзяленне праменняў гамма. У выніку гэтага навокал рэактара паўстае моцнае выпраменьванне, якое вельмі шкодзіць на абслугоўваючы персанал. Каб забяспечыць людзей ад уплыву радыёактыўных праменняў атамны рэактар заслоньваецца грубым слоем бетону або другога матэрыялу, непрапускаючага праменняў. Кожны кубічны метр катла патрабуе каля 100 тон засцерагальнага матэрыялу. Павялічвае гэта значна вагу атамнай установкі. Гэта ўстаноўка патрабуе вельмі мала топліва, дзеля таго яе цяжар разам з запасамі паліва не будзе больш ад звычайных сучасных карабельных установак.




*Схема атамнай сілавай устаноўкі падводнай лодкі.*

Застасаванне атамных установак з'яўляецца асабліва важнай у некатарых караблях. Факт, што атамная ўстаноўка не патрабуе паветра, дзе магчымасць шырокага застасавання ў падводных лодках.

З ліку «атамных падводных лодак» першая — «Наўцілус» ужо ўваходзіць у склад флота ЗША, а другая — «Сі Вулф» спушчана на ваду летам у мінулым годзе і цяпер знаходзіцца ў стадыі завяршэння. Праект караблебудаўнічай праграмы ЗША на 1956 — 1957 бюджэтны год прадугледжвае пабудову шасці падводных лодак з атамнай сілавой установкай. У працэсе пабудовы знаходзіцца лодка «Скейт». У пачатку гэтага года былі заложаны падводныя лодкі «Суордфіш» і «ССН-583». У студзені 1954 г. падводная лодка «Наўцілус» была спушчана на ваду. Да моманту спушчання карабль быў гатовы ў 60 прац. і на ім былі ўстаноўлены ўсе механізмы з выключнасцю самага главнага — рэактара.

Пасля заканчэння пабудовы ў канцы верасня 1954 г. падводная лодка была перадана ваенна-марскому камандаванню для правядзення выпрабаванняў. За час выпрабаванняў лодка прайшла больш чым 3 000 міль (1 міля — 1852 метраў) правяла 69 пагружэнняў, 92 гадзін прабыла пад вадой Ядзерны рэактар лодкі працаваў каля 320 гадзін. Пасля заканчэння выпрабаванняў падводная лодка «Наўцілус» вайшла ў склад атлантычнага флота ЗША.

Згодна з англійскім ваенна-марскім справачнікам Джэнна — падводная лодка «Наўцілус» мае наступныя аснаўныя тактыка - тэхнічныя элементы: стандартнае надводнае водазмяшчэнне — 2.500 тон, падводнае водазмяшчэнне — 3 180 тон, найвялікшая даўжыня —97,5 м, шырыня найбольшая — 9,1 м., максімальная глыбокасць пагружэння — 230 м. Механічная ўстаноўка — паратурбінная, двухвальная магутнасць да 20.000 конскіх сіл ядзерны рэактар — на «павольных» (цеплавых) нейтронах з вадзяным ахаладжэннем пад націскам, ядзернае «гаручае» — абагачаны уран — 235.

Падводная хуткасць — да 28 вузлоў (1 вузел—1852 м. у гадзіну), далёкасць плавання ў падводным становішчы без дапаўнення запасу «гаручага» пры хуткасці 20 вузлоў— каля 30 тысяч міль, расход «гаручага» пры нармальных умовах эксплуатацыі — 430 грамаў у месяц.

Экіпаж складаецца з 91 асобы. Агульная вартасць пабудовы падводнай лодкі разам з рэактарам — 75 мільёнаў долараў.

Унутраны від «Наўцілуса» мала чым адрозніваецца ад сучасных двухкорпусных падводных лодак. Наступныя падводныя лодкі будуюцца адначасова з мэтай зменшыць вагу і размер атамнай установкі, што пераважна не стварае спецыяльных труднасцей.

З гэтага ўсяго бачым, што ў той час, калі СССР і краіны народнай дэмакратыі атамную энергію выкарыстоўваюць на пабудову электрастанцый, ледаколаў і другіх аб'ектаў, служачых мірным мэтам, — ЗША імкнецца да таго, каб атамную энергію як найбольш выкарыстаць на вайсковыя патрэбы.

## Ці ведаеце, што ...

КАЗАХСКАЯ ССР — адна з самых вялікіх і багатых рэспублік Совецкага Саюза. Яе тэрыторыя — 2 753,8 тысяч квадратных кіламетраў. Найбольшая працягласць рэспублікі з поўдня на поўнач—каля двух тысяч кіламетраў, з захаду на ўсход—каля трох тысяч кіламетраў. На прасторах Казахстана могуць размясціцца ўсе дзяржавы Заходняй Еўропы. Па плошчы Казахстан больш за ўсе рэспублікі Совецкага Саюза (акрамя РСФСР), разам узятыя.

У НЕТРАХ Казахстана адкрыты багацейшыя запасы ўсіх элементаў табліцы Д. І. Мендзялеева. Па запасах жалезнай руды, вугалю, нафты, баксітаў, свінцу, цынка, медзі, фасфарытаў, рэдкіх металаў рэспубліка займае адно з першых месц у краіне.

К КАНЦУ пяцігодкі дзве домны Карагандзінскага металургічнага завода, які будуецца, будуць даваць 1 мільён 350 тысяч тон чыгуну. К гэтаму часу тут уступіць у строй і няспынны ліставы стан. Завод будзе выдаваць самы танны і якасны метал у краіне. Па сваёй магутнасці ён пераўзыдзе Кузнецкі металургічны камбінат.

У КАЗАХСТАНЕ хутка расце жыллёвае будаўніцтва. У цэнтры Усходне-Казахстанскай вобласці, напрыклад, на жыллёвае і культурнае будаўніцтва ў гэтам годзе штодзённа затрачваецца адзін мільён рублёў, у Карагандзе — больш паўтара мільёна рублёў.



*Электронны мозг —гэта вельмі складаная машына, якая ужываецца ў складаных матэматычных разліках, патрабуючых вялікай затраты часу і працы.*

*У сучасны момант у Франкфурце — на Майне ўстанаўліваецца вялікі электронны мозг амерыканскай вытворчасці. Яго вага — 270 цэнтнераў, кошт — 7 мільёнаў марак.*

ФОТО — ЦАФ.

## Кнігі па пошце

*Яшчэ раз прыпамінаем, што на жаданне нашых чытачоў адкрыта ў Беластоку, аддзел Беларускай Кніжкі ў кнігарні № 18 «Дом ксёнжкі» вул. Кілінскага 10, у якой можна атрымаць па заказу беларускую кніжку па пошце.*

*Ніжэй падаем некалькі загалоўкаў кніжак, якія можна выпісаць.*

| Аўтар | Загаловак | Цана |
|---|---|---|
| 1. Змітрок Бядуля | — Апавяданні — 450 стар. | 7,50 зл. |
| 2. „ „ | — Вершы і паэмы — 436 стар. | 3,40 „ |
| 3. „ „ | — Салавей, Язэп Крушынскі — 522 стар. | 5,30 „ |
| 4. „ „ | — Язэп Крушынскі, У драмучых лясах — 573 стар. | 5,60 „ |
| 5. Пятрусь Броўка | — Цвёрдымі крокамі — 105 стар. | 1,50 „ |
| 6. Кузьма Чорны | — Збор твораў у 6-ці томах разам — 2.900 стар. | 40,55 „ |
| 7. А. Фадзееў | — Маладая гвардыя — 680 стар. | 6,50 „ |
| 8. Тарас Хадкевіч | — Сяброўства — 376 стар. | 4,25 „ |
| 9. Алесь Якімовіч | — Арляняты — 466 стар. | 4,50 „ |

ВАСІЛЬ БАРШЧЭЎСКІ (3)




Тымчасам дзядзька Піліп выняў з кішэні літроўку і ставячы яе на стол прамовіў:

— Ну калі ўжо так ласкава нас прымаеце, не станем адмаўляцца — ды вось я думаю не пашкодзіць і прымачыць гэтую, як відаць смакавітую закусачку.

У пакой увайшла Гануля. Усе разселіся за сталом. Сцяпан разліў гарэлку ў чаркі.

— Ну даражэнькія, Сцяпан і Гануля, — прамовіў дзядзька, — прапаную выпіць за тое, што выгадавалі так прыгожую доньку і за тое, каб яна ў вашай хаце не засядзела месца.

Груня саромліва апусціла вочы.

— Ды яна яшчэ маладзенькая—адказала маці — мы не спяшаемся каб яе выдаць.

Усе цокнуліся і выпілі.

Груня таксама ўмачыла свае пунсовыя губкі і крывячыся адставіла чарку.

— А ну яе з хваробаю, — сказала яна, — пякучая, быццам агонь.

Закусіўшы, дзядзька Піліп наліў яшчэ па чарцы.

— А цяпер, Піліпка — прамовіў Сцяпан, падымаючы чарку, — вып'ем за твайго маладога пляменніка і за яго шчаслівую будучыню.

Зноў цокнуліся і перахілілі чаркі. Груня гэтым разам выпіла да дна.

У Мішкі ад радасці загарэліся вочы. Ён з удзячнасцю паглядзеў на Груню.

— Ну цяпер прыступім да справы — пачаў дзядзька Піліп. — Дык вось, Сцяпанка, як я ўжо табе сказаў, шукаем мы асаблівага тавару і, як відаць ёсць у цябе такі тавар (пры гэтым дзядзька вымоўна зірнуў на Груню).

— Пярэчыць не буду, — азваўся Сцяпан, — тавар ёсць і хоць я не спяшаюся яго збыць, аднак такім купцам, як вы адмаўляць не стану.

— Вось залатыя словы — заўважыў дзядзька Піліп. — Ну а, як з пасагам Сцяпанка? Я думаю, што такой дочаньцы належыць таксама не абы які пасаг.

— Пра пасаг Груні таргавацца не станем — адказаў Сцяпан. — Сундук Груні запоўнены рознай вопраткай, падушкамі ды пярынамі, вось няхай і забірае. Да гэтага дадам яшчэ «красулю» — добрая кароўка. Ну вось і ўсё, няхай маладыя жывуць ды разжываюцца.

— Добра, мы згодны, сказаў Піліп, аднак я думаю Сцяпанка, што маладым людзям на дробныя абыходы спатрэбіцца з 8.000 у грашах. Што ты скажаш на гэта?

— Ну і заспяваў ты, Піліпка, — чухаючы патыліцу заўважыў Сцяпан. — Ды адкуль-жа я іх вазьму гэтыя 8.000. Ну яшчэ 3.000 магчыма, але 8.000, не! — у ніякім выпадку.

— Хопіць... — шапнуў дзядзьку Мішка. Піліп наступіў яму на нагу пад сталом, даючы зразумець, што каб маўчаў.

— Ды ці-ж мы, Сцяпанка будзем таргавацца? — пераконваў Піліп. — Ты-ж не каму чужому, а сваёй родненькай доньцы даеш. Давай 5.000 і добра.

— Чатыры — больш ані залатовачкі. Гэта маё апошняе слова — сказаў Сцяпан.

— Ну добра, няхай будзе чатыры — згадзіўся дзядзька Піліп.

— Аднак да гэтага мусіш, Сцяпанка, дадаць яшчэ свайго балона.

— Ці ты з глузду з'ехаў, Піліп? — падняўшыся з-за стала трывожна сказаў Сцяпан. — А чым жа я буду ездзіць?

— Мішка табе свой воз аддасць і хоць ён не зусім новы, аднак ездзіць можна. Ты ано падумай, ці-ж маладым людзям выпадае рыпаючым возам ездзіць. Табе старому ўсё роўна, а ім балон, ну брат, гэта зусім што іншае.

— Калі так — згодны! — заявіў Сцяпан, наліваючы чаркі.

— Ну зяцёк, сваце, давайце яшчэ раз вып'ем за добрую долю, за шчасце!

Усе прыўсталі, цокнуліся і выпілі да дна.

Вясёлая, бязладная гутарка запоўніла пакой. Сцяпан нават прыпеўкі пачаў спяваць але яго Гануля асадзіла.

— Перастань стары, чаго дзярэшся. Перайдзем лепш у другі пакой няхай маладыя пазнаёмяцца і пагутараць з сабою, — сказала яна.

Дзядзька Піліп ўстаючы ад стала нагнуўся да Мішкі і шапнуў: — «трымайся, глядзі не падкачай».

Старыя выйшлі з пакоя зачыняючы за сабой дзверы. Мішка скоса паглядаў на Груню. Яна апусціла вочы.

*Працяг будзе.*

